Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

7-13 лістапада 1997 года

# Рэгіянальная газета

ЦАНА 2000 РУБ. ІНФАРМАЦЫЙНА-РЭКЛАМНАЕ ВЫДАННЕ

№45 (133)

ЮБІЛЕЙ 80

Спадчына Фелікса

2 старонка

## Конкурс "Фотамадэль рэгіёна"



*Аня: Маладзечна, 15 год, рост 166, вага 55; любімы мультфільм "Том і Джэры", па вечарах любіць "тусавацца" - гуляць, слухаць музыку, не любіць у гэты час мыць посуд.*

*Фота Аляксея ФЯЦІСАВА.*

Нагадаем, што ў нашым конкурсе ўдзел узяць можа кожная. Прымаем здымкі як прафесійных фатографаў, так і аматарскія. Пераможца атрымае прыз ад "РГ". У спрэчцы ж за чытацкія галасы (інтэрв'ю з "самай абаяльнай" мы абавязкова змесцім на старонках "РГ") аднаасобнага лідэра няма - магчыма, і таму, што чытачы нашы не надта актыўныя ў выказванні сваіх сімпатый.

# Парк Ахвяраў усіх часоў і народаў

*МАЛАДЗЕЧНА. Жыхар Мясаты Сяргей Галай заклаў парк "Памяці невінаватых ахвяраў усіх часоў і народаў". Ля сваёй хаты пасадзіў звыш за 40 відаў дрэў і кустоў, большай часткай экзатычных. Ад кароў абгарадзіў калючым дротам. Прыцягнуў 15-тонны валун-абеліск. На ім хоча выдзяўбці назву парку і разнастайную сімволіку: хрысціянскія крыжы, чырвоную зорку, зорку Давіда... Сяргей лічыць, што ахвяра неабавязкова павінна прайсці ГУЛАГ, Афганістан, Чарнобыль. Нават цэлы народ можа пакутаваць, стаўшы заложнікам палітыкаў.*



Заканчэнне на 2-й стар.

УКЛАДЫШ ДЛЯ МОЛАДЗІ № 6

*У наступным нумары "РГ"*

## Сярэдняя зарплата ад пачатку года і за верасень на некаторых прадпрыемствах Маладзечна за 9 месяцаў

| | Ад пачатку года, т. р | За верасень, т. р. |
|---|---|---|
| Завод "Спадарожнік" | 1118,0 | 1296,3 |
| ААТ "Электрамодуль" | 1610,9 | 1938,3 |
| Станказавод | 1297,6 | 1494,8 |
| ЗЛМК | 2955,0 | 3729,7 |
| ААТ "Маладзечналес" | 2406,7 | 3473,7 |
| Фабрыка музінструментаў | 1176,0 | 1521,3 |
| НА "Маладзечнамэбля" | 3534,3 | 4155,3 |
| Друкарня "Перамога" | 2439,5 | 3787,7 |
| Камбінат хлебапрадуктаў | 3605,5 | 3857,0 |
| Хлебазавод | 2764,8 | 3125,0 |
| Завод металавырабаў | 917,5 | 1081,3 |
| ААТ "Конфа" | 2483,8 | 3555,0 |
| ААТ ШФ "Юнона" | 1623,0 | 2119,8 |
| Завод парашковай металургіі | 1309,9 | 1517,2 |
| ВВА таварыства сляпых | 1385,4 | 2019,3 |
| ВГК "Аксаміт" | 979,3 | 1443,0 |
| Завод ЖБВ | 2041,4 | 2588,2 |
| ААТ "Жалезабетон" | 3754,4 | 4104,0 |
| ТАА "БелХол" | 3157,3 | 4275,0 |
| АТ "Струм" | 3412,3 | 3855,7 |
| Фабрыка маст. вырабаў | 1530,4 | 1966,9 |
| ЗАТ "Дыліс-Касметык" | 2323,4 | 3179,1 |
| СП "Мінскі мэблевы цэнтр" | 2630,3 | 3864,9 |
| СП "Трэмала" | 1642,6 | 1915,7 |
| СП "ХайБел" | 887 | 931 |
| **Усяго па горадзе:** | **1920,9** | **2442,9** |

## Навіны

### Бясплатны аўтамабіль

*ВІЛЕЙКА. Дырэктар вытворча-гандлёвага прадпрыемства "ДМТ" Вячаслаў Доўнар паабяцаў бясплатна адрамантаваць аўтамабіль.*

Шанцы на гэта меў кожны - дастаткова было першым паставіць свайго чатырохколавага каня на абслугоўванне новай майстэрні па рамонце легкавікоў і аўтобусаў. Створана яна на базе згаданага "ДМТ", а расцэнкі будуць ніжэйшыя за існуючыя працэнтаў на 20.

*Аддзел інфармацыі.*

### Навіны тэлефанізацыі

*СМАРГОНЬ. У 1998 годзе плануецца пашырыць АТС-3 на 1920 нумароў.*

Абсталяванне для гэтага РВЭС ужо атрымаў. Зараз ідзе яго мантаж.

*Валянціна ВЕШТАРТ.*

### І зімовы сад увосень

*СМАРГОНЬ. На наступным тыдні плануецца ўрачыстае адкрыццё прыбудовы да школы-інтэрната.*

Дзеці-сіроты з няўдалых сем'яў (усяго навучэнцаў інтэрната каля 300) будуць карыстацца 2 басейнамі, прыйдуць у зімовы сад, новыя класы. Нечаселле стала магчымым дзякуючы намаганням дырэктара інтэрната **Валянціны Картановіч**.

*Тарэса КУМІШЧА.*

### За Беларусь

*МАЛАДЗЕЧНА. Нягледзячы на кепскае надвор'е, прадстаўнікі мясцовай Рады БНФ і арганізацыі былых палітвязняў у дзень "Дзядоў" з нагоды 60-годдзя пачатку масавых рэпрэсій правялі мітынг-рэквіем ля помніка-каменя "Пакутнікам за волю і незалежнасць Беларусі".*

Перад прысутнымі выступілі лідэр маладзечанскіх народафронтаўцаў **А. Капуцкі**, старшыня гарадской арганізацыі былых палітычных вязняў **А. Гротуз**, дырэктар Насілаўскай школы **В. Бярнацкі**, мастак **К. Харашэвіч**.

Напрыканцы мітынгу да падножжа помніка ўдзельнікі ўсклалі кветкі. Пры запаленых свечках чыталі малітву "За Беларусь".

*Алесь ЦАДКО.*

### Пакуль не вызваляць

*МАЛАДЗЕЧНА. Актывісты "Маладога Фронту" і БДА "Ветэран" выставілі ў аўтарак ля крамы "Дзіцячы свет" пікет у падтрымку 16-гадовага Вадзіма Лабковіча і 18-гадовага Аляксея Шыдлоўскага, якія 2 месяцы ўтрымліваюцца ў жодзінскім следчым ізалятары.*

За паўтары гадзіны пад патрабаваннем аб вызваленні падпісаліся некалькі дзесяткаў чалавек. Падобныя акцыі арганізатары плануюць праводзіць рэгулярна.

*Алесь КАПУЦКІ.*

## Нашы госці

### Цікавяцца. Але не ЦРУ

*МАЛАДЗЕЧНА. У мінулую пятніцу рэдакцыю "РГ" наведаў чарговы замежны госць - вопытны работнік газетнага бізнесу з ЗША Доналд Харвуд (Donald Harwood).*

На мэце эксперт ставіў азнаямленне з праектам развіцця нашай газеты. Крокі рэдакцыі ў гэтым сэнсе ацэнены як правільныя.

*Аддзел інфармацыі.*

## Падпіска - 98

Як мы даведаліся, ва ўсім свеце ёсць чатыры помнікі казачным героям. Адзін у сталіцы Сенегала - фігура труса, другі ў Швейцарыі - легендарнаму стралку Вільгельму Тэлю. Трэці - на вакзале ў Смаргоні. Але хто гэта, аднаногі братка Іванка і яго сястрычка Аленка, ці нехта іншы - паспрабуйце зразумець самі. Апошні і самы вядомы ў Капенгагене - Русалачка з казкі Ганса Хрысціяна Андэрсена. У Даніі, напэўна, таксама можна атрымліваць *"Рэгіянальную газету"*, але, шаноўныя чытачы,

у нашым рэгіёне

**ПАДПІСАЦЦА ЗНАЧНА ЛЯГЧЭЙ!**



Падпісная цана застаецца ранейшай:

на

1 месяц- 8 тыс. р.

3 месяцы-24 тыс. р.

паўгода-48 тыс. р.

Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# Сяргей Галай пасадзіў парк Ахвяраў усіх часоў і народаў

*Пачатак на 1-й стар.*

Галай з Хойніцкага раёна. Аматар падарожнічаць, ён аб'ехаў Расію, Азію. Маці называла "летуном", бо часцяком разам з кліматычнымі пасамі меняў работы - то хадзіў матросам па Волзе, то ў пустыні "фатаграфаваў жучкоў-павучкоў", то ў Нарыльску "даваў краіне вугаль". 11 гадоў, як асеў у Мясаце. Жаніўся, выхоўвае дзяцей, працуе ў лясніцтве.

У ягоным парку на 20 сотках растуць кітайская тапаля, мядзведжы арэх, канадская елка, дугласія - рэдкі экземпляр наогул у свеце... Адныя расліны Галай "здабывае" у Батанічным садзе сталіцы, іншыя вырошчвае сам. Напрыклад, сібірскі кедр выгадаваў з шышкі. Марыць набыць секвою. Вышыня гэтага дрэва можа даходзіць да 120 м, дыяметр - 11. А жыццястойкасць небывалая - ссечаная галіна не вяне да 2 гадоў.

Сяргей не селекцыянер. У парку, на яго думку, віды дрэў, кустоў павінны паўтарацца не больш за два разы. І быць цікавымі па форме (не з нашых месцаў). Адныя дрэвы хутка ўзнімуцца, за іншымі даглядаць будуць дзеці, унукі. Пасаджаны ціс за 100 гадоў вырастае на 10 сантыметраў.

У сям'і Галаяў бацькаў занятак разумеюць, дапамагаюць. Сярод вяскоўцаў аднадумцаў, здаецца, няма. Але супакоіліся. З павагай аб гаспадары адгукаюцца, хаця поўнасцю і не разумеюць яго хобі.

Мясата мае даўнюю гісторыю. На ўездзе пазначаныя імёны знакамітых людзей, што мелі дачыненне да вёскі. Можа, хутка залатымі літарамі ўнясуць прозвішча Галая. Пытаюся, чаму парк менавіта ля дома, а не на звыклым месцы. Напрыклад, ля помніка героям апошняй вайны. Побач школа, ёсць каму даглядаць.

- З дзяцінства памятаю, - гаворыць Сяргей, - наш клас замацавалі за алеяй. Спачатку стараліся, але зацікаўленасці не было. З гадамі дрэвы знішчаліся. І цяпер хіба хто будзе падліваць літры вады для паліўкі?

*Васіль САВІЦКІ.*



*"Кіраўцам" не зрушылі гэты валун. Але дапамаглі тэхнікай рабочыя, што вялі газ. Прыцягнулі.*

## Адным абзацам

Васьмідзесятая гадавіна рэвалюцыі зноў заняла ганаровае месца ў нашым афіцыйным жыцці. Некаторыя газеты змяшчаюць святочныя віншаванні, матэрыялы з успаўленнем дня, які прынес столькі гора мільёнам людзей. А ў многіх школах рэгіёна пайшлі яшчэ далей і на педсаветах адміністрацыя вядзе гаворку пра значэнне перавароту і дасягненні сацыялізму.

7 лістапада ў смаргонскім гарадскім парку адбудзецца мітынг, прысвечаны рэвалюцыі. Ладзіць яго раённы камітэт ПКБ.

Чарговая гуманітарная дапамога для вілейскай СШ №3 і мясцовага аддзялення таварыства Чырвонага Крыжа трапіла па адрасах хутка. Гараджане памятаюць, як 2 месяцы праляжалі на складзе лекі, чакаючы ад мытнікаў дазволу на выкарыстанне.

Сталічная вобласць перавысіла дазволены ліміт спажывання электраэнергіі. Таму для некаторых прадпрыемстваў Міншчыны і нават бытавых спажыўцоў з 3 лістапада ўведзены графік магчымага адключэння ў гадзіны максімальных нагрузак.

Міжнародны турнір па баскетболе для хлопчыкаў 1985-1986 года нараджэння пройдзе 6-9 лістапада ў Смаргоні. Удзел возьмуць каманды з Масквы, Вільнюса, Мінска і Смаргоні.

З кастрычніка зноў пачала выходзіць газета ТБМ імя Ф. Скарыны "Наша слова". Выдаецца яна ў Лідзе, абавязкі рэдактара выконвае **Станіслаў Суднік**. У Маладзечне газету можна набыць у шапіку ТБМ на Прывакзальнай плошчы.

## Футбол

**1 ліга. 28 тур**

**"Маладзечна" - "Дынама" (Брэст) 1:3**

Гэта крыўдная параза адсунула нашых землякоў на апошняе 16 месца. Цяпер такую ж колькасць ачкоў - 24, маюць "Шахцёр" і "Тарпеда-Кадзіно", 25 у "Трансмаша". Засталося правесці два туры.

Шмат што вырашыцца сёння ў Салігорску, дзе "Шахцёр" прымае "Маладзечна", а ў аўторак да нас завітае "Нафтан-Дэвон" (9 месца).

*Сяргей ГАЙКОВІЧ.*

## Навіны

### Зважай на ваенкамат

***СМАРГОНЬ. Ваенны камісарыят па выніках веснавога прызыву заняў першае месца ў Гродзенскай вобласці. У ліку лепшых ён аказаўся і па рэспубліцы.***

Загад міністра, які падводзіць вынікі веснавога прызыву, адзначае работу не толькі смаргонскага ваенкамата, але і астравецкага. Смаргонскі ваенком падпалкоўнік **Міхальчык**, начальнік 2 аддзялення ваенкамата маёр **Скрыпнік**, старшыня прызыўной камісіі **А. Апановіч**, а таксама яе члены ўзнагароджаныя.

*Валянціна ВЕШТАРТ.*

### Раённы "Гарадок"

***АСТРАВЕЦ. Днямі ў рэгіёне стала на адзін сродак масавай інфармацыі больш. Распачало работу раённае радыё, якое вядзе Наталля Мяшкова.***

Маркуецца, што "Гарадок", а менавіта такая назва ў перадачы, будзе поўна і аб'ектыўна распавядаць аб навінах раёна, здарэннях, цікавых людзях і іншым. Ці так яно будзе на справе, думаецца, упэўнімся з цягам часу.

*Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.*

## Кастрычніку - 80

# Спадчына Фелікса

***Пасля "жалезнага чалавека" ў рэгіёне засталіся музей, некалькі калгасаў, названых у яго гонар, а яшчэ цёзкі па прозвішчы і партрэты ў кабінетах КДБ.***

*ВАЛОЖЫН.* Мемарыяльны музей Дзяржынскага, што ў Івянцы, мелі намер закрыць у пачатку 90-х, бо не было наведвальнікаў. Упраўленне культуры Мінскага аблвыканкома вырашыла яго часткова перапрафіляваць. І сёння асноўная экспазіцыя, прысвечаная чалавеку "з халоднай галавой", знаходзіцца ў 17 км ад Івянца, у філіяле ў Дзяржынове (сямейным маёнтку). Сам жа музей, выконваючы праграму "Вяртанне да вытокаў", на сваёй базе стварыў цэнтр рамёстваў і нават дэманстраваў творчасць мясцовых майстроў у Польшчы.

Аб сваім духоўным бацьку памятае КДБ. Сёлета ў верасні чэкісты святкавалі 120-годдзе з дня нараджэння Фелікса Эдмундавіча. Акрамя таго, абласное ўпраўленне гэтай установы паабяцала музею грошы на аднаўленне дома Дзяржынскіх (філіяла).

Можа, гэта неяк і сімвалічна. У будынку мемарыяльнага музея калісьці жыў мяснік. А пазней будынак стаў належаць камітэту Дзяржбяспекі.

*МАЛАДЗЕЧНА.* 76-гадовая **Клаўдзія Дзяржынская** жыве ў вёсцы Яхімоўшчына; два з паловай гады, як пахавала гаспадара. Паходжанне прозвішча тлумачыць так: муж з Гомельшчыны, Буда-Кашалёўскага раёна. Даўно нейкі пан прайграў маёнтак "заходніку" - Дзяржынскаму. Той засяліўся з жонкаю і чатырма сынамі - быццам бы далёкімі продкамі Фелікса. Падчас Другой Сусветнай родных будучага мужа, на той час 17-гадовага партызана, немцы расстралялі. І цяпер немагчыма ўдакладніць пра сваё гучнае прозвішча, якім жанчына ганарыцца. (А вось жыхары вёскі Сакаўшчына, што на Валожыншчыне, памятаюць, што іх аднавясковец гадоў 20 таму афіцыйна памяняў прозвішча Троцкі на Вінаградаў).

Клаўдзія Дзмітрыеўна адпрацавала бухгалтарам. Двое яе дзяцей жывуць у Мінску. А муж узначальваў гаспадарку. Кіраваў ён паспяхова, быў узнагароджаны Чырвонай Зоркаю Героя Сацыялістычнай працы.

*СМАРГОНЬ.* Калгас імя Дзяржынскага ўтварыўся ў 1954 годзе. Так павялося, што і раней, яшчэ з пачаткам калгаснага руху, гаспадарка называлася ў гонар людзей вядомых: імя Васілеўскага (маршала), імя Папаніна (палярніка). У канцы 70-х "Імя Дзяржынскага" пашырыўся за кошт "чырвоных" - у склад увайшлі гаспадаркі "Маяк", "Змагар за мір", імя К. Маркса. Гэткай махінай кіраваў **Пётр Карней**. Другі год старшынёй калгаса **Мікалай Бандаровіч**. Нягледзячы на гарыстую мясцовасць, гліністую глебу, гаспадарка пакрыху рухаецца ўверх і мяняць сваю назву не збіраецца.

*Васіль САВІЦКІ.*



